*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

*№40 жнівень 2014*

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

*Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь*

# ААН вінаваціць прарасійскіх паўстанцаў ва Украіне ў забойствах, выкраданнях і катаваннях



***Прарасійскія паўстанцы ва Украіне вінаватыя ў шырокім спектры парушэнняў правоў чалавека, у тым ліку забойствах, выкраданнях і катаваннях, а таксама атрымліваюць "сталае забеспячэнне" сучасным узбраеннем і боепрыпасамі, гаворыцца ў справаздачы ААН.***

**Паводле назіральнікаў, у Крыме "працягваецца пераслед і дыскрымінацыя ў дачыненні да ўкраінскіх грамадзянаў, крымскіх татараў і іншых меншасцяў.**

# Алесь Бяляцкі: Беларускі рэжым шукае выгаду ў бядзе ўкраінцаў



Напярэдадні сустрэчы Пятра Парашэнкі, кіраўніцтва МС і ЕС у Мінску ўлады правялі арышты актывістаў апазіцыі: актывіста «Маладога Фронту» Зміцера Крамянецкага міліцыянты забралі проста з дому, а актывіста «Змены» Паўла Вінаградава абвінавацілі ў дробным хуліганстве і пасадзілі на 10 сутак.

Вядомы беларускі праваабаронца, былы палітвязень Алесь Бяляцкі сказаў рэдакцыі сайта charter97.org, што гэтыя арышты ярка прадэманстравалі, што «хапальныя рэфлексы» рэжыму спрацоўваюць нават на вачах у прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадскасці Еўрасаюза, а Лукашэнка бессаромна выкарыстоўвае няпростую сітуацыю ва Украіне толькі дзеля ўласнай выгады: для паляпшэння сваёй пазіцыі на міжнароднай арэне.

- Фон гэтай сустрэчы быў афарбаваны ў старыя колеры - адбыліся затрыманні грамадзянскіх актывістаў. Гэта, вядома, вельмі негатыўна. Гэтыя затрыманні яшчэ раз паказваюць, што ў Беларусі нават падчас прыезду высокіх чыноўнікаў Еўрасаюза ўлады не збіраюцца нічога змяняць да лепшага хоць бы для выгляду. Па вялікім рахунку, гэтыя затрыманни не мелі ніякага сэнсу. Відавочна, што, затрымаўшы некалькі чалавек, улады карэнным чынам нічога не змянілі, але гэты «хапальны рэфлекс» падчас нейкіх сур'ёзных мерапрыемстваў у Мінску, як ні дзіўна, спрацаваў і падчас прыезду прадстаўнікоў еўрапейскага дэмакратычнага грамадства.

- Чаму Мінск - не лепшае месца для перамоваў паміж Расіяй і Украінай?

- Арышты апазіцыі выклікаюць пэўнае расчараванне і скептыцызм да месца правядзення гэтай сустрэчы. Прычым гэта падкрэслівае той факт, што месца правядзення сустрэчы было абрана не вельмі ўдала і Беларусь не можа выконваць функцыю нейтральнай краіны. Існуюць і іншыя важныя прычыны. Перш за ўсё, гэта палітычная залежнасць беларускага рэжыму ад расійскіх уладаў, і казаць пра нейкую нейтральнасць беларускіх уладаў абсалютна не выпадае. Усё кажа аб тым, што яны з'яўляюцца марыянеткамі ў руках Крамля і выконваюць пэўную функцыю, якую ім Крэмль вылучыў у гэтым драматычным і трагічным спектаклі, які зараз адбываецца.

- Якую выгаду шукаў Лукашэнка, узяўшы на сябе гэтую ролю «міратворца» у рэгіёне?

- Мне горка было бачыць, як гэтая сітуацыя была скарыстаная беларускімі ўладамі на сваю карысць, без усялякіх зменаў і без усякіх паляпшэнняў унутранага становішча ў краіне. На жаль, з гэтым даволі няхітрым, але ў той жа самы час відавочна прадуманым ходам з боку беларускіх уладаў пагадзіліся і чыноўнікі Еўрасаюза, і кіраўніцтва Украіны. Нічога ў Беларусі не сведчыць пра тое, што сітуацыя з дэмакратыяй, з правамі чалавека, з нейтральнасцю, з аб'ектыўнасцю Беларусі падчас міжнародных канфліктаў палепшылася.

- Некаторыя ўкраінскія эксперты лічылі, што няма нічога дрэннага ў правядзенні дыпламатычных сустрэч з удзелам Парашэнкі ў Мінску. Дзе, на вашу думку, павінна была прайсці падобная сустрэча?

- Мне здаецца, гэта недальнабачная палітыка Украіны ў дачыненні да рэжыму Лукашэнкі. У свеце хапае сапраўды нейтральных дзяржаў, з ходу я магу назваць Швейцарыю, якая ўжо стагоддзямі выконвае функцыю перамоўнай пляцоўкі для правядзення падобных сустрэч. І мне здаецца, што беларускія ўлады выкарыстоўвалі гэтую сітуацыю, не змяняючы сваёй аўтарытарнай пазіцыі, каб палепшыць сваю пазіцыю на міжнароднай арэне.

Нагадаем, 24 лістапада 2011 суд прызнаў Алеся Бяляцкага вінаватым праваабаронцы ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры і прыгаварыў да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Падставай для крымінальнага праследу Бяляцкага стала наяўнасць у яго рахункаў у банках Літвы і Польшчы. Суд не ўлічыў, што паступаюць на іх грошы выкарыстоўваліся для праваабарончай дзейнасці, а адкрыць рахункі ў Беларусі немагчыма, бо «??Вясна» працуе нелегальна. Улады неаднаразова адмаўлялі ў афіцыйнай рэгістрацыі арганізацыі.

Праваабаронцу вызвалілі па амністыі 21 чэрвеня 2014 г. пасля амаль трох гадоў у папраўчай калоніі. Тры гады запар Бяляцкі вылучаўся прэтэндэнтам на Нобелеўскую прэмію міру, а таксама ён афіцыйна быў прызнаны вязнем сумлення.

# Ахвяравала за ўсіх нас. Памяці Валерыі Навадворскай

У мяне была адна абсалютная рэальная мара жыцця – паехаць у Маскву, дзе я ніколі не быў. Цяпер яна не збудзецца ніколі. Таму што сама Масква мяне зусім не цікавіла і не цікавіць. Мне хацелася паехаць у гэтую вечную сталіцу зла і дзікунства толькі для таго, каб сустрэцца з адным чалавекам, а менавіта жанчынай, з якой ніколі не быў знаёмы асабіста, але якая была вельмі блізкай. Сустрэцца, каб задаць тыя пытанні, якія, як мне здавалася, ніхто яшчэ ніколі ёй не задаваў, хоць яна раздала безліч інтэрв'ю і каментароў розным журналістам. Каб атрымаць на гэтыя пытанні вычарпальныя адказы. Мара не збудзецца, таму што Валерыі Навадворскай больш няма на гэтым свеце. У пэўным сэнсе – гэта як страціць родную цётку, якую ты любіў яшчэ з дзяцінства і часта ўспамінаў яе словы. Пераканаы, што многія ўспрынялі вестку пра смерць Валерыі Ільінічны менавіта так – праз асабістае перажыванне і душэўны боль.



Валерыя Навадворская нарадзілася ў беларускіх Баранавічах, пэўны час жыла там у бабулі, вырасла ўжо ў Маскве. Ужо з юнацтва стала дысідэнткай, распаўсюджвала антысавецкія ўлёткі, выступіла супраць уводу савецкіх войскаў у Чэхаславаччыну, за што была арыштаваная і прымусова змешчана ў псіхіятрычную лякарню-турму. Выйшла адтуль пасівеўшай ужо ў 22 гады, але не скарылася. Працягвала змаганне ва ўсіх магчымых формах, доўга пераследавалася. Лічыла сябе патрыёткай Расеі, імкнулася да стварэння еўрапейскай Расеі, верыла ў свой ідэал і змагалася за гэта ўсё сваё жыццё. Такія жанчыны як Навадворская нараджаюцца для краіны сапраўды раз у сто гадоў. Такой асобай для Беларусі была наша вялікая паэтка Ларыса Геніюш. Для Расеі, для ўсёй постсавецкай прасторы, такой была Навадворская, якую ніхто нам не заменіць. Менавіта яна была тым індыкатарам-чалавекам, па меркаваннях якога можна было вымяраць сваю пазіцыю, погляды, прынцыповасць і разуменне тых, ці іншых палітычных працэсаў.

Некалі мой першы духоўнік святар Віктар Данілаў даводзіў нам пра панятак "святая нянавісць" у хрысціянстве, найперш, канешне, у дачыненні да граху. Мне здаецца, што Навадворская мела менавіта такую "святую нянавісць" да чырвона-карычневай чумы, усё жыццё яна змагалася супраць камунізму і яму падобных плыняў, супраць подласці і здрады. Выказвалася надзвычай катэгарычна, безапеляцыйна, але нейкай злосці, тым больш істэрыі, у яе ніколі не было. Рабіла гэта з дзіўна зачаравальнай іроніяй, прыводзіла надзвычай мастацкія вобразы. Яна сапраўды была хрысціянкай, хоць ніколі гэтага не афішавала. З біяграфіі ведама, што ў 1990-ым у веку 40 гадоў хрысцілася і прыналежала да Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

Уся наша публіцыстыка, усіх тых, хто вучыўся ў яе вастраму і хвосткаму слову, разам узятая, вартая хіба адсоткаў дзесяць ад таго, што пісала яна. Глыбінны інтэлект, шырачэзная эрудыцыя, неверагодны сарказм, пранікнёная дасціпнасць і непахісная прынцыповасць – усё гэта яна, Валерыя Навадворская. Зачароўвала яе веданне гісторыі, параўнальныя характарыстыкі, цытаванне класікі.

Малаверагодна, што мы дажывем да таго часу, калі імем Валерыі Навадворскай назавуць вуліцы ў Маскве, Кіеве, Баранавічах ці Мінску. Хоць у Кіеве зараз і могуць. Навадворская ў гэтай вызвольнай вайне дэмакратычнай Украіны з імперска-злачыннай Расеяй выступіла на баку справядлівасці, выступіла за Украіну, публічна абвесціўшы крамлёўскім уладарам сваю вайну. Верагодна, што гэтага ёй не даравалі. Хоць крамлёўскія вурдалакі крывадушна нават выказалі спачуванне блізкім памерлай. У іх вялікі досвед па фізічнай ліквідацыі іншадумцаў. Можна прыгадаць тут, як яшчэ ў 2003-ім быў атручаны таленавіты і прынцыповы, светлай душы публіцыст і чалавек Юрый Шчакачыхін. Як былі забітыя Анна Паліткоўская, Сяргей Магніцкі і дзесяткі іншых людзей, якія апынуліся на дарозе ў маскоўскай дыктатуры. Занадта мазоліла ім вочы і няўрымслівая Навадворская, якая нікога і ніколі не баялася. У кожным разе ўсё сваё жыццё Навадворская паклала на алтар свабоды паняволеных народаў савецкай імперыі зла. А значыць ахвяравала за свабоду кожнага з нас.

*Уладзімір Хільмановіч*

*Віктар Сазонаў*




# Дзень Незалежнасці Украіны

Украіна 24-га жніўня святкавала Дзень Незалежнасці. Украіна мае свой сапраўдны Дзень Незалежнасці. Яна за гэты дзень змагаецца. Яна вартая гэтага свята. Гэта самае вялікае дзяржаўнае свята кожнай краіны, якая гэтую незалежнасць сапраўды шануе і беражэ. Па Кіеву на святочным парадзе ўпэўненым маршам праходзяць узброеныя вайскоўцы і баявая тэхніка ды накіроўваюцца прама на фронт. На ўсход. Туды, дзе трэба не толькі задэклараваць свае адносіны да незалежнасці любай Радзімы, але і дзейсна змагацца за яе, і рэальна рызыкаваць уласным жыццём. Туды, дзе ўжо загінулі сотні такіх жа самых змагароў за Незалежнасць, якія таксама хацелі жыць, радавацца жыццю, апякавацца сем’ямі, будаваць планы на будучыню… Яны мелі гэтыя планы. Светлыя, радасныя, аптымістычныя… Але… Але сваю будучыню аддалі за вольную будучыню свайго народу, за незалежную будучыню сваёй Радзімы.

Той цывілізацыйны выбар, які ўкраінцы з энтузіязмам і надзеяй прынялі на Майдане, не ўдалося ажыццявіць без жудасных і шматлікіх ахвяраў. Здавалася б, што той крыві, якая была пралітая на Майдане было больш чым дастаткова, каб увесь свет, уключаючы і Расею, дакладна зразумеў, якім шляхам вырашыў ісці ўкраінскі народ і што з гэтага шляху яго ўжо ніхто і ніколі не зможа спіхнуць. І што аддадзеныя за гэты шлях бясцэнныя жыцці Нябеснай Сотні ўжо сталі цвёрдым гарантам незваротнасці гэтага працэсу. Гэта было зразумела кожнаму, хто хоць крыху знаёмы з значэннем слова “зразумела”. Ды не ўсе захацелі гэта разумець. І таму тое супрацьстаянне на Майдане паміж украінскім народам і тагачаснай прадажнай і марыянеткавай уладай, на жаль, не стала канцом праліцця крыві, а толькі яго пачаткам.

Не ўсе пагадзіліся з тым, што толькі ўкраінцы валодаюць правам вырашаць будучыню і лёс украінскага народу. І калі раней, яшчэ на самым пачатку расійска-ўкраінскага канфлікту такія фразы расійскай дыпламатыі як “кіеўская хунта”, крыху для прыстойнасці



разбаўляліся фразамі “брацкі народ”, то зараз расійская рыторыка з лёгкасцю абыходзіцца без завярэнняў у братнім сяброўстве і дэкларацыі добрых намераў. Усё часцей гучыць жудаснае слова “вайна”.

Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка, выступаючы ў гэтае свята перад суайчыннікамі, назваў гэтую вайну Айчыннай вайной 2014-га года за незалежнасць Украіны. Аналогіі якія ён правёў з вайной супраць фашызму цалкам зразумелыя, як і парад войск перад рашучым боем. “Вайна супраць знешняй агрэсіі. За Украіну, за яе свабоду, за гонар і славу, за народ. За Незалежнасць”, – заявіў ён.

У гэтых словах, а яшчэ выразней у інтанацыі і эмоцыях, з якімі яны былі сказаныя, прагучала ўсё. І яго вострая занепакоенасць лёсам краіны, і яго валоданне праўдзівай сітуацыяй, і дакладнае разуменне таго, хто яму супрацьстаіць і з якой смяротнай небяспекай сутыкнулася яго нацыя, і рэальнае ўяўленне сваіх сённяшніх мажлівасцяў. Гэта важна. Вельмі важна. Але ў гэтых словах прагучала і яшчэ нешта, можа быць яшчэ больш важнае. Самае важнае. У гэтых словах гучала вера ў сваю праўду, у моц і патрыятызм свайго народу, у яго нескаронасць, у яго здольнасць стаяць да канца і прайсці наканаваны лёсам шлях з годнасцю і гонарам. Прайсці яго так, каб у будучым вольныя грамадзяне незалежнай Украіны праз вякі з удзячнасцю і гонарам узгадвалі цяперашні перыяд жыцця свайго народу, якому наканавана было зрабіць лёсаносны выбар і прайсці найскладанейшыя выпрабаванні.

Украінцы слухалі прамову свайго кіраўніка, якога яны абралі, глядзелі на сваё войска, якое толькі-толькі пачало сапраўды рэальна адраджацца, маршыравалі ў складзе гэтага войска па цэнтры сваёй сталіцы, цешыліся колерамі свайго нацыянальнага сцяга, выявай свайго герба, спявалі на сваёй мове свой украінскі гімн. Яны адчуваюць сябе народам. Яны, і толькі яны, ёсць цвёрдым гарантам незваротнасці выбранага на Майдане шляху. Яны і толькі яны ёсць гарантам Незалежнасці сваёй Краіны.

**З Днём Незалежнасці вас украінцы!**
**З святам цябе Украіна!**

# Людзі і чалавечкі

*Уладзімір Хільмановіч*

Разумных народаў на свеце, праўдападобна, не засталося. Ня толькі мы, беларусы, такія недалёкія. Заакіянскія амерыканцы двойчы выбіраюць на свайго прэзідэнта Абаму, еўрапейскія французы Аланда. Не буду тут расшыфроўваць – sapienti sat. Украінцы не так даўно выбралі Януковіча, за што нацыя ўжо заплаціла дарагую цану ў сотні, а можа ўжо і тысячы жыццяў. Большасць беларусаў сваю жорсткую памылку зрабіла дваццаць гадоў таму. За гэтыя 20 гадоў жыццё адкінула ў развіцці дзяржаву Беларусь на многія дзесяцігоддзі. А галоўнае – адкінула людзей у развіцці. У мысленні, у разуменні, у асэнсаванні свайго існавання на гэтай зямлі. У выніку – знешне нібыта здаровыя людзі з нейкім перакручаным, збочаным, алагічным і абсурдным мысленнем. Вось стаіць група людзей у чарзе банку: абмяркоўваюць міжнародныя навіны, апошнімі словамі праклінаюць амерыканскую знешнюю палітыку і тут жа ўслед адзін за адным скупляюць… амерыканскія даляры. Хіба гэта ня від шызафрэніі, раздваення ў адной галаве? Такія вось зялёныя чалавечкі: Амерыку зацята ненавідзяць, даляр – любяць больш за родных брата з сястрою. Еўропу ненавідзяць – і ўсе як адзін на замежных іншамарках машынаў. Ніхто ў гісторыі столькі для вынішчэння беларусаў не зрабіў як Расея з Нямеччынай. Але вось прыходзіць які-небудзь спартовы форум і "народ" – канешне заўзее за "старэйшага брата", ну а так званая эліта – за Германію. Бэсцяць польскія парадкі і адначасна ляцяць па "Карту паляка", а ў каго не знайшлося нават прапрадзеда, ахрышчанага ў касцёле, душацца ў чэргах па запаветную шэнгенскую візу. Беластоцкія супермаркеты перапоўнены грамадзянамі Беларусі, якія скупляюць усё запар і усімі праўдамі і хітрасцямі валакуць пасля праз мяжу да сябе.





І так ва ўсім. Працуюць хіба найбольш з усіх еўрапейскіх народаў, матэрыяльна жывуць – хіба найгорш на кантыненце. Але кажуць, што добра, што ўсё ёсць, што няма вайны. Скажаце – узорны хрысціянскі мінімалізм. Але ж не туды тое, бо паўсюль сквапнасць, зайздрасць і імкненне ўрваць хоць што на халяву.

Ці возьмем сферу паслугаў. Выклікаеш якога-небудзь сантэхніка, ён тры дні да цябе едзе, а потым, прыехаўшы, паводзіцца як нейкі прафесар мікрабіялогіі: ходзіць з важным выглядам і урэшце кажа, што нічога зрабіць немагчыма. А калі магчыма, то гэта так складана, што будзе патрабаваць тыдня падрыхтоўкі, яшчэ столькі ж часу працы, ну і будзе каштаваць месяцавую заробную плату таго ж прафесара мікрабіялогіі. Ну і на канец, калі ўсё зробіць (пра якасць тут маўчым), то нечакана высвятляецца, што матэрыялы і праца разы ў паўтары падаражэлі. Безумоўна, трапляюцца ў іншыя спецыялісты, сапраўдныя майстры сваёй справы, якія і дакладныя як швайцарскі гадзіннік, і справу сваю ведаюць дасканала. Але такія ўсюды ў меншасці. Большасць – гэта тыя сама зялёныя чалавечкі, якія сядзяць у балоце і з твані сваёй вылазіць ня хочуць. Адурманеныя расейскай прапагандай, яны вераць тэлевізару болей, чым голасу элементарнага розуму. Але і тут раздваенне ў галаве – расейцаў яны таксама ненавідзяць, гэтыя беларускія вечныя "партызаны" часта маўчаць, але маскоўцаў яны таксама ня любяць. Яны ўвогуле нікога ня любяць, нават у межах сваёй краіны: заходнікі пагардліва ставяцца да ўсходнікаў, усходнікі не церпяць гарадзенцаў ды берасцейцаў.

Цяжка любіць свой народ, асабліва калі табе цэлы час з гэтым народам не па дарозе, не ў нагу. Асабліва цяжка, калі народ выракаецца роднай мовы. Пімен Панчанка незадоўга да сваёй смерці ў адчаі адмовіўся ад таго, чаму прысвяціў усё жыццё, Васіль Быкаў меў вельмі песімістычны настрой датычна бліжэйшай будучыні Беларусі. Многія заўчасна адышлі ў іншы свет, не вытрымаўшы фізічна і псіхалагічна. Людзям цяжка сярод чалавечкаў, асабліва зараз, калі нацыя так падзеленая ў выніку антыбеларускай палітыкі. Зянон Пазьняк заклікае любіць гэты хворы народ, так, як трэба любіць сваіх нямоглых бацькоў. Напэўна гэта слушна, бо іншага шляху, як асветніцтва – папросту няма.

# А г р э с і я

***Улада чамусьці заўсёды думае, што менавіта яна абавязкова выжыве, што б там не сталася з іншымі. Маўляў, увесь свет можа загінуць, але яе, уладу, гэта абміне. Чаму людзі пры ўладзе такія самаўпэўненыя, даўно разгадалі мысліцелі яшчэ з незапамятных часоў. Сакрэт тут просты. Неабмежаваная ўлада прытупляе інтэлект, нават калі такі быў да моманту ўзяцця ўлады, і ў дадатак надзяляе свайго гаспадара пачуццём поўнай беспакаранасці за свае ўчынкі. Ды вось гісторыя даказвае акурат усё наадварот.***

Сёння свет стабільна дрэйфуе ў бок новай сусветнай вайны. І гэта не таму, што нехта нечага не падзяліў, што насамрэч Расея не хоча пускаць Украіну ў Еўропу ці напраўду лічыць Крым калыскай расейскай цывілізацыі. Гэты кірунак на вайну быў абраны ўжо дваццаць гадоў таму, калі з блакітных экранаў зомбаскрынак упершыню ілжывыя і падхалімныя тэлепрапагандысты шэрагу постсавецкіх рэспублік, у лік якіх уваходзіць і наша любая Беларусь, пачалі ствараць вобраз знешняга і ўнутранага ворага і актыўна сталі сеяць нянавісць ды агрэсію.

Дастаткова ўключыць наш тэлевізар або ўзяць у рукі дзяржаўную прэсу, як адтуль вадаспадам хлыне нічым не прыкрытая нянавісць. Фразы “пятая калона”, “заходнія фінансатары”, “спробы раскалыхаць нашу стабільнасць” і яшчэ безліч падобнага, сталі ўжо звыклымі прапагандысцкімі штампамі, без якіх і матэрыял то не ва ўсякага дзяржаўнага агітатара можа атрымацца. Нават калі матэрыял тычыцца зусім непалітычнага кірунку. А як кажуць, кропля камень точыць. Дваццаць год капання на мазгі не праходзяць проста так. Людзі становяцца агрэсіўнымі па сваёй сутнасці. І гэтая аб’яднаная шматмільённая агрэсія мусіць у нешта выліцца. У тым ліку і ў вайну.

Менавіта адсюль узялася такая масавая падтрымка расейцамі палітыкі Пуціна, захоп Крыму, падтрымка сепаратыстаў ва Украіне. Менавіта адсюль вырастаюць падтрымка смяротнага пакарання, жорсткасці ўлады і жорсткасці ўвогуле.

Зусім нядаўна быў у Швецыі. Звярнуў увагу на вялікую групу дзяцей, што гулялі ў цэнтры гораду. Дзеці як дзеці. Такія як нашы. Носяцца, скачуць, смяюцца. Толькі



нешта ў іх было крыху не так, як у нас. І паназіраўшы за імі даўжэй я зразумеў што. Яны не піхаліся, не збівалі адзін другога з ног, не прычынялі адзін другому аніякага болю. Проста адсутнасць агрэсіі ў самым грамадстве аўтаматычна паўплывала і на адносіны дзяцей паміж сабой. І іхным бацькам і ў галаву не прыходзіць павучаць сваіх дзяцей умець пастаяць за сябе, даць здачы, адказаць ударам на ўдар. Няма каму адказваць. Ніхто з іх не ўяўляе патэнцыйнай пагрозы для іншага.

Зразумела, што за стан падвышанай агрэсіі ў грамадстве адказвае ўлада, і толькі ўлада. Ды яе прапагандысцкія службы, што не могуць і адной фразы вымавіць, каб не абазваць кагосьці фашыстамі, агрэсарамі, ворагамі… Эпітэтаў безліч. І гаворацца яны з непрыкрытай інтанацыяй нянавісці. Усё, што можа зменшыць напал агрэсіі ў грамадстве, даўшы альтэрнатыўную кропку гледжання, проста выкідваецца з тэлеэфіру. Прапалі польскія каналы, украінскія… Застаецца толькі тое, што ўзмацняе напружанасць і агрэсію.

І агрэсія квітнее. Шафёры не саступаюць дарогу адзін другому, дзеці штурхаюцца, людзі глядзяць на іншых як на канкурэнтаў, прадавачкі лаюцца на кліентаў, ахоўнікі збіваюць наведнікаў супермаркетаў, кожны знеслаўляе кожнага… У людзей кардынальна змяніўся менталітэт і стаўленне да сусвету. Ад усеагульнай зычлівасці і любові ён пераключыўся на пошук ворага, вобраз якога так доўга праз свае сродкі масавага замбавання нам стварала ўлада. Людзі зараз насамрэч шчыра думаюць, што ўсе на свеце не спяць і толькі плануюць, якую нам зрабіць шкоду. І нават не здагадваюцца, што большасць людзей планеты ўвогуле не ведаюць пра нашае існаванне.

Але ўлада, высяваючы ў грамадстве агрэсію, якую хоча выкарыстаць у сваіх інтарэсах, не ўлічвае аднаго галоўнага моманту. Што гэтая ж сляпая і бяздумная агрэсія, у момант свайго піку, можа жорстка і бязлітасна змесці яе стваральнікаў як цунамі папяровы караблік, так што ад іх і ўспаміну не застанецца.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на верасень 2013 году

**1 верасьня**
75 гадоў таму (1939) – Пачалася другая сусьветная вайна, беларусы з Заходняй Беларусі былі ў складзе польскага войска.

**2 верасьня**
200 гадоў таму (1814) – Памёр Жан-Эмануіл Жылібэр, французскі прыродазнавец, вучоны, які працаваў у Гародні і Вільні.

**3 верасьня**
120 гадоў таму (1894) – У мяст. Жыровічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Хлябцэвіч, удзельнік беларускага грамадзка-літаратурнага руху пач. 20 ст.

105 гадоў таму (1909) – У Гародні заснаваны нелегальны гурток беларускай моладзі.

**6 верасьня**
250 гадоў таму (1764) – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

**7 верасьня**
Дзень беларускага пісьменства і друку

300 гадоў таму (1714) – У в. Дзітрыкі (Лідзкі р-н) нарадзіўся Міхал Карыцкі, паэт, грамадзкі дзеяч, педагог.

285 гадоў таму (1729) – Вялікі князь Аўгуст II пацьвердзіў Лідзе магдэбургскае права.



**8 верасьня**
500 гадоў таму (1514) – Адбылася бітва пад Воршай. Разгром войскамі ВКЛ на чале з Канстанцінам Астрожскім маскоўскага войска. Дзень беларускай вайсковай славы.

**9 верасьня**
75 гадоў таму (1939) – У в. Саволеўка (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Шурпа, беларускі паэт, журналіст, педагог.

**10 верасьня**
20 гадоў таму (1994) – У Гародні адбылося масавае сьвяткаваньне 480-ых угодкаў перамогі ў бітве пад Воршай.

**13 верасьня**
100 гадоў таму (1914) – У в. Верабейкі (Сьвіслацкі р-н) нарадзіўся Эдуард Гойлік, беларуска-польскі кампазітар, музычны педагог, хормайстар.

**14 верасьня**
130 гадоў таму (1884) – У Наваградку (у засьценку Вераскоўшчына) нарадзіўся Фабіян Абрантовіч, беларускі ўніяцкі духоўнік, грамадзка-культурны дзеяч, філосаф, рэлігійны педагог.

**17 верасьня**
240 гадоў таму (1774) – Нарадзіўся Тадэвуш Тышкевіч, дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ, удзельнік паўстаньняў 1794 і 1830 гг. З 1813 жыў у Сьвіслачы.

75 гадоў таму (1939) – Савецкія войскі перайшлі мяжу з Польшчай і да 25 верасьня занялі тэрыторыю Заходняй Беларусі разам зь Вільняй і Беластокам. Адбылося далучэньне Заходняй Беларусі да БССР.

**20 верасьня**
100 гадоў таму (1914) – Нарадзіўся (на Наваградчыне) Базыль Камароўскі, беларускі пісьменьнік, грамадзкі дзеяч эміграцыі (Нямеччына, Канада).

85 гадоў таму (1929) – У Слоніме адчынены краязнаўчы музей.

70 гадоў таму (1944) – Утворана Гарадзенская вобласьць.

**21 верасьня**
10 гадоў таму (2004) – У Гародні і ваколіцах зафіксаваны землятрус – 2 балы па шкале Рыхтара.

**23 верасьня**
110 гадоў таму (1904) – У Гародні адбылося выступленьне навучэнцаў мужчынскай гімназіі супраць адкрыцьця расейскай уладай у Вільні помніка Кацярыне II.

**24 верасьня**
190 гадоў таму (1824) – Пачаў будавацца Аўгустоўскі канал.

110 гадоў таму (1904) – У в. Цяцеркі (Браслаўскі р-н) нарадзіўся Марыян Пецюкевіч, дзеяч заходнебеларускага грамадзка-культурніцкага руху, этнограф. У 1940-ых працаваў школьным інспектарам у Ашмяне.

45 гадоў таму (1969) – У Гародні нарадзіўся Юры Гумянюк, беларускі літаратар, паэт, журналіст.

**25 верасьня**
100 гадоў таму (1914) – У Зэльве нарадзіўся Аўген Смаршчок, педагог, перакладчык, прафесар, сьвятар БАПЦ (Бельгія).

**26 верасьня**
90 гадоў таму (1924) – У Альбярціне пад Слонімам айцы-езуіты заснавалі Ўсходнюю грэка-каталіцкую місію з навіцыятам.

**27 верасьня**
Сусьветны дзень турызму.

**28 верасьня**
25 гадоў таму (1989) – У Жыровічах аднавіла дзейнасьць Менская праваслаўная духовая семінарыя.

**29 верасьня**
485 гадоў таму (1529) – Пачаў дзеіць I Статут ВКЛ.

220 гадоў таму (1794) – У в. Заблошчына (непадалёк Вільні) нарадзіўся Ігнат Ходзька, пісьменьнік, мемуарыст.

220 гадоў таму (1794) – У Гародню прыбыў Тадэвуш Касьцюшка, на наступны дзень узнагароджваў паплечнікаў-паўстанцаў.

85 гадоў таму (1929) – Памёр Ян Тарчэўскі, беларускі грамадзкі дзеяч, нашанівец, настаўнік. Нараджэнец в. Асінаўка (Ашмянскі р-н).

20 гадоў таму (1994) – У Гародні прайшлі ўрачыстасьці, прысьвечаныя 200-ым угодкам вызвольнага паўстаньня 1794 году. На будынку Новага замку адчынена мемарыяльная дошка.

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
жнівень 2014
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры передруку спасылка
абавязковая

